# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 44 (1236) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 4 ЛІСТАПАДА 1979 г. ЦАНА 1 зл.




*Момант уручэння І сакратаром ВК ПАРП у Беластоку Уладзіславам Юшкевічам Крыжа Валечных.*



*На мітынгу выступае І сакратар Пружанскага РК КПБ Іван Качур.*

## СВЯТА Ў БЕЛА-ВЕЖЫ

Нядзеля 14 кастрычніка г.г. надоўга застанецца ў памяці жыхароў Белавежы. Ужо ў суботу мястэчка было па-святочнаму ўпрыгожана, галоўныя вуліцы і важнейшыя будынкі прыбраны сцягамі. У нядзелю з самай раніцы на вуліцах ажыўленне. Усе збіраюцца на мітынг. З-пад гміннага камітэта ПАРП выязджаюць на дзяржаўную граніцу дэлегацыі мясцовых улад і грамадскіх арганізацый вітаць запрошаных на ўрачыстасць жыхароў Пружанскага раёна (БССР). Пад гукі аркестра мяжу пераходзіць некалькі соцень чалавек. Вітаюць іх традыцыйна хлебам і соллю. Абдымкі, кветкі, шчоўканне рэпарцёрскіх фотаапаратаў. У кожнага на твары ўсмешка. Калона аўтамашын едзе ў цэнтр Белавежы, да помніка загінуўшым ад гітлераўскіх захопнікаў. Месца на трыбуне займаюць прадстаўнікі мясцовых улад і запрошаныя госці. Святы агонь запальваюць чатыры былыя салдаты польскай і савецкай армій Я. Савіцкі, М. Патэюк, Р. Кротаў і вучаніца Я. Назарук. Пачынаецца мітынг.



*Складанне вянкоў.*

Слова прадстаўляецца І сакратару ГК ПАРП у Белавежы Пятру Тарасевічу. Вітае ён прыбыўшых на мітынг гасцей. Затым коратка напамінае гісторыю барацьбы жыхароў Белавежы за свабоду і незалежнасць, пералічвае дасягненні гміны за гады народнай улады, падкрэслівае вартасць трывалых сувязей польскага і савецкага народаў. Пасля

(Працяг на стар. 2)



*Дэлегацыя жыхароў Пружанскага раёна пераходзіць дзяржаўную граніцу.*



*Улады гміны перадаюць Крыж Валечных Пакою нацыянальнай памяці ў Лясным тэхнікуме.*

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ



Вясной і летам бягучага года я прабываў на працягу трох з палавінаю месяцаў у БССР. Маё прабыванне супала ў часе з такімі знамянальнымі датамі, як трыццаціпяцігоддзе вызвалення Беларусі і трыццаціпяцігоддзе адраджэння Польшчы. Якраз з выпадку гэтых вялікіх нагод Саюз пісьменнікаў БССР арганізаваў вялікую колькасць аўтарскіх сустрэч у розных кутках БССР. Да гэтых сустрэч быў прыцягнуты таксама я. У складзе пісьменніцкіх брыгад, разам з такімі беларускімі пісьменнікамі і крытыкамі, як Вітка, Гроднеў, Міська, Дайліда, Татур, Зуб, Ставер, Камейша, Александровіч, Мальдзіс, Шаўня, я больш чым восемдзесят разоў выступаў у Іўеўскім раёне, у Бярозаўцы, у Мазыры, у Слуцку, у Брэсце, на Міншчыне і ў Мінску. Выступалі мы ў школах, у летніх дзіцячых лагерах, у інтэрнатах, у дамах культуры і клубах, у фабрычных цэхах, на будаўнічых пляцоўках, на жывёлагадоўчых фермах, у палявых станах і т.п. Ніколі яшчэ мне не даводзілася выступаць перад слухачамі так розных узростаў, адукацыі і прафесій. Найбольшае і незабыўнае ўражанне пакінулі тыя сустрэчы, якія адбываліся на фабрыках і заводах сярод станкоў, а таксама сустрэчы ў палявых станах, на фоне велізарных камбайнаў і іншых сельскагаспадарчых машын. Давялося мне разам з камбайнёрамі пазіраваць да перадачы па тэлебачанню і ў полі спажыць з імі вельмі смачны абед. Зразумела, што гэта рэчы цікавыя, але не найважнейшыя. Істотнае іншае. Я ўжо не раз на працягу апошніх дзесяцігоддзяў бываў у савецкіх беларускіх вёсках. Мне было цікава даведацца, як там цяпер.

У многіх выпадках мы прыязджалі ў школы і інтэрнаты без папярэджання. Гэта значыць, што ніхто спецыяльна не рыхтаваўся да сустрэчы з намі. І нягледзячы на гэта, усюды сустрэлі нас дзеці і моладзь, вельмі добра і акуратна апранутыя, а памяшканні школ і інтэрнатаў заўсёды былі ўтрыманы ў ладзе і добрым парадку. Асабліва спадабаўся мне выгляд бібліятэк, святліц, клубаў, аформленых з добрым знаўствам і густам.

Давялося мне некалькі разоў пабываць у вясковых хатах. Мушу сказаць, што мэбля, прылады, дываны ў нічым не ўступаюць гарадскім кватэрам і значна адрозніваюцца ад таго стану, які быў 10-15 гадоў таму назад.

Будучы чалавекам вясковага паходжання, я многа разоў пытаў даярак, трактарыстаў, настаўнікаў, камбайнёраў, а нават пастуха аб іх заробках. Месячныя зарплаты ў 200, 250 ці нават 350 рублёў не належаць да рэдкасці. А з'яўляюцца яны толькі часткай даходаў, бо амаль кожны, з кім я гутарыў, мае прысядзібны ўчастак, гадуе жывёлу і такім чынам атрымлівае дадатковыя матэрыяльныя і грашовыя даходы. Аб узросце матэрыяльнага ўзроўню вясковага жыцця сведчыць, між іншым, тое, што многія калгаснікі стараюцца пазбыцца ўчасткаў і ўласнай жывёлы з тае прычыны, што даходы, якія атрымліваюць з калгасаў, поўнасцю забяспечваюць патрэбы іх сем'яў.

Зразумела, што найважнейшай для мяне справай былі адносіны беларускіх слухачоў да паэзіі. І тут маё здзіўленне даходзіла да апагея. Незалежна ад таго, дзе і перад кім мы выступалі, заўсёды людзі нас слухалі з найвышэйшай увагай. Здаралася, што ў зале знаходзілася каля трохсот слухачоў. Кожны, каму даводзілася ў жыцці выступаць публічна, ведае, што кантакт са слухачамі залежыць у значнай ступені ад іх колькасці. Чым большая зала і чым больш у ёй лю-

(Працяг на стар. 2)

# ЯК ВЫПІСАЦЬ „НІВУ"?

**З такім пытаннем часта звяртаюцца да нас беларусы, якія жывуць па-за Беласточчынай. Здараецца, што ў мясцовасцях, у якіх няма нашых чытачоў, і адказныя за падпіску працаўнікі не ведаюць, як выпісаць „Ніву". Што ў такіх выпадках рабіць?**

**Спасылайцеся на „Informator o cenach prasy polskiej". Ён ёсць ва ўсіх установах, якія прымаюць падпіску. Непаразуменні здараюцца таму, што не ўсе працаўнікі гэтых устаноў дакладна чытаюць гэты інфарматар. А нумар індэкса, пад якім змешчана „Ніва" ў гэтым інфарматары (цэнніку) 36671. Значыць, выпісаць „Ніву" можна ва ўсіх паштовых установах Польшчы. Таксама і ў „Руху".**

**Цана падпіскі:**
**гадавая — 52 зл.,**
**паўгадавая — 26 зл.,**
**квартальная — 13 зл.,**
**месячная — 4,50 зл.**

**Вы можаце таксама выпісаць „Ніву" сваім знаёмым за граніцу. Такая падпіска на 50% даражэйшая, і яе прымае RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.**

## *КАЛЯНДАР*

**220 гадоў назад**

10.II.1759 нар. Ф. Шылер, нямецкі паэт, драматург і тэарэтык мастацтва.

**130 гадоў назад**

7.II.1849 нар. Ю. Хэлмонскі, польскі жывапісец.

**100 гадоў назад**

5.II.1879 пам. Дж. Максвел, англійскі фізік, стваральнік класічнай электрадынамікі.

**95 гадоў назад**

10.II.1884 нар. З. Налкоўская, польская пісьменніца.

**40 гадоў назад**

6.II.1939 гестапа арыштавала прафесараў Ягелонскага універсітэта.

* * * * * * * * * *

*6.II.1909 пецярбургская „Ніва" пісала: Зараз ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы без выключэння ўстаноўлены канстытуцыйны характар праўлення. Здавалася б, Еўропа павінна быць царствам самага трывалага грамадскага парадку. У сапраўднасці ж яна жыве, як на вулкане, сярод самых нечаканых унутраных канфліктаў і амаль няспынных сацыяльна-рэвалюцыйных змаганняў.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1889 Nakład 7.600 egz. S-2



*Фрагмент мемарыяльнага комплексу „Брэсцкая крэпасць".*

**(Працяг са стар. 1)**

# НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

дзей, тым цяжэй сканцэнтраваць увагу ўсіх на чымсьці індывідуальным. Такіх цяжкасцей ні я, ні мае беларускія калегі не мелі, выступаючы перад рознай публікай. Заўсёды адчувалася вялікая ўвага сабраных, уласцівыя іх рэакцыі і праявы адабрэння. У многіх выпадках слухачы падчас сустрэч, а таксама пасля іх заканчэння, звярталіся да мяне з рознымі пытаннямі адносна жыцця ў Народнай Польшчы.

Бадай найбольшае ўражанне зрабіў на мяне Брэст, я першы раз у гэтым горадзе быў у 1957 годзе. Пасля каля сарака разоў праязджаў праз брэсцкі вакзал, але ў самым горадзе не быў. На гэты раз у Брэсце мы разам з Мальдзісам правялі васемнаццаць сустрэч. У сувязі з гэтым многа разоў наведвалі розныя раёны горада. У 1957 годзе Брэст выдаўся мне маленькім правінцыянальным гарадком, а зараз велізарным цэнтрам. Дзесяціпавярховыя будынкі сустракаюцца тут на кожным кроку, а некаторыя аб'екты, напрыклад, універмаг, нічым не ўступаюць мінскім ці маскоўскім.

Асабліваe ўражанне робіць мемарыяльны комплекс Брэсцкай крэпасці. Мая эмацыянальнасць была тут памножана тым фактам, што ў перыяд першай сусветнай вайны мой бацька, будучы салдатам царскай арміі, бараніў Брэст і крэпасць ад немцаў.

Першыя мае сустрэчы пачаліся ўжо ў пачатку мая, апошнія ў канцы ліпеня. З болем у сэрцы глядзеў я на жорсткую засуху, якая бязлітасна атакавала збажыну, і з радасцю сустракаўся з людзьмі, якія нягледзячы на выключную суровасць лета, знаходзілі час на тое, каб слухаць паэтаў і сваёй прыгожай сардэчнай успрыймальнасцю інспіраваць і спрыяць нараджэнню новых вершаў.

**Алесь Барскі**

**(Працяг са стар. 1)**

# СВЯТА Ў БЕЛАВЕЖЫ

выступае начальнік Белавежскай гміны Генрык Мар'янскі. Чытае ён рашэнне Дзяржаўнай Рады ПНР аб прызнанні Белавежскай гміне Крыжа Валечных — за выдатныя заслугі ў барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі, дапамогу партызанам, а таксама ўклад ва ўмацаванне народнай улады. Наступае найбольш урачысты момант мітынгу. Прызнаную ўзнагароду ўручае уладам гміны I сакратар ВК ПАРП У. Юшкевіч. Словы падзякі выказвае П. Тарасевіч.

Перад пераклічкай загінуўшых — тры залпы, аддадзеныя ў іх гонар Ганаровай ротай ВП. Выступае У. Юшкевіч. Напамінае ён заслугі польскага народа ў ваенны і мірны перыяд, падкрэслівае вялікі ўклад у сацыялістычнае будаўніцтва жыхароў Беласточчыны, у тым ліку і Белавежы. Пасля пераклічкі загінуўшых наступае момант складання ля помніка вянкоў і кветак. Затым слова прадстаўляецца I сакратару РК КПБ Івану Качуру. Гаворыць ён аб каштоўнасці савецка-польскай дружбы і супрацоўніцтва.

Мітынг ля помніка заканчваецца. Улады гміны з суправаджаючымі дэлегацыямі і жыхарамі Белавежы пад гукі аркестра нясуць па вуліцы імя Героя Савецкага Саюза ген. А. Вашкевіча ў Пакой нацыянальнай памяці ў Лясным тэхнікуме — прызнаны Крыж Валечных. На плошчы перад тэхнікумам адбываецца яшчэ адна ўрачыстасць. Наступае ўручэнне Ляснoму тэхнікуму залатога значка „Заслужаны для Беласточчыны", прызнанага ваяводскімі ўладамі. Выступаюць на гэтай урачыстасці дырэктар тэхнікума Тадэуш Макшыцкі, вучні Вальдэмар Шклянко, Тэрэса Харашэўская і сакратар ВК ПАРП у Беластоку Галіна Пятроўская-Ольчак. У час наведвання Пакою нацыянальнай памяці тав. У. Юшкевіч узнагароджвае ген. дыв. У. Аліву залатым значком „Заслужаны для Беласточчыны", а І. Качура і І. Вяліко залатымі медалямі „Апекуна месцаў нацыянальнай памяці". Затым дэлегацыі з Пружан і Беласточчыны едуць яшчэ на Броўскую дарогу. Там на месцы загінуўшых ад рукі гітлераўцаў 222 чалавек яны складаюць вянкі і кветкі.

Пасля афіцыйнай часткі наступае пара на сяброўскія сустрэчы, гутаркі, шпацыр па мястэчку і парку, якраз прыбраным ва ўсе колеры восені, на візіт у Прыродазнаўчы музей. Шматлікія жыхары Белавежы і прыезджыя госці наведваюць таксама спажывецкія, тэкстыльныя, абутковыя і іншыя ларкі, якія на нядзельную ўрачыстасць размясціліся ўздоўж алеі над ракой непадалёку чыгуначнага прыпынку, глядзяць і слухаюць выступленні ансамбля „Каса хворых" і панадворкавай капелы з Васількова, прымаюць удзел у аўкцыёне фільмовых плакатаў, даход з якога ідзе на фонд Цэнтра здароўя дзіцяці. Але ўсё, нават добрае, мае канец. Пасля абеду група жыхароў Пружанскага раёна вяртаецца дамоў. Вечарам раз'язджаюцца іншыя госці. Памяць аб супольным святкаванні аднак застанецца.

Тэкст і фота **Пятра Байко**




**Дзеля шчасця, дзеля дабрабыту ● Пчаляр ● Сустрэча з Фёдарам Янкоўскім ● З жыцця бельскай моладзі ● Пацешыла ● Дзелавіты кам'тэт ● Буг у агні ● Дзед Кастусь — дзядзьку Квасу ● Весткі з Беластока. Белавежы, Гайнаўкі, Міхалова, Сухавольцаў, Чаромхі, Дубіч Царкоўных, Тынявіч, Чыжоў ● Калі сніцца грыб на грудзях ● Як чысціць плямы ● Развучваем беларускія песні: „Зорка Венера" (з нотамі).**

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 4 XI** — 8.55 Program dnia. 9.00 Teleranek, a w nim m.in. ang. film fab. z serii Niezwykła piątka. 10.20 Antena. 10.45 Samoloty i ludzie. Od jednej wojny do drugiej — franc. film dok. 11.40 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Z kamerą wśród zwierząt. 12.50 Koncert życzeń. 13.30 Goście Koziołka Matołka. 14.00 Na bezdrożach Amazonii. 14.20 Los. Dużego Lotka. 14.45 Zgadnij, kim jestem — teletur. 15.30 Najazd Daleków na Ziemię — ang. film z gatunku science fiction. 16.55 Tele-echo. 18.00 Sport 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Korzenie — odc. X — film fab. TV USA. 21.15 Sport. 21.30 Przeboje mistrzów — odc. 14. wyk. J. Oberek, B. Ładysz, J. Dolny, B. Betley-Sieradzka i Capella Cracoviensis. 22.10 Moje serce zostało w Warszawie — pr. rozr. z udziałem Iriny Ponarowskiej.

**Poniedziałek 5 XI** — 15.55 Program dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.25 10 minut — teletur. 17.35 Anna siostra Jany — czechosł. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: Rustam Imrahimbekow — „Własną drogą". 21.40 Jak? — pr. publ. 22.25 Dziennik.

**Wtorek 6.XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.00 Mazurska operacja Żagiel — rep. film. 17.25 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.55 Sonda. 18.25 Między nami jaskiniowcami — film. anim. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Saga Rodu Rius — odc. VI — film fab. TV hiszp. 21.35 Wolność Rosji, wolność Polsce — pr. oświat. 22.05 Camerata. 22.30 Dziennik. 22.45 Hokej. Polska—CSRS.

**Środa 7 XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Mat. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Pan Półka i spółka. 16.55 Los. Expres i Małego Lotka. 17.05 Dom i my. 17.25 Klinika zdrowego człowieka. 18.00 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.30 Świat, który nie może zaginąć — ang. film dok. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Filmoteka arcydzieł. Delegat floty — radz. film fab. 21.55 Bój to jest nasz ostatni — widowisko muz. z udziałem m.in. J. Karaszkiewicza, M. Siudyma, W. Bednarka i in. 22.25 Dziennik. 23.10 Kształt słowa — pr. publ. kult.

**Czwartek 8. XI** — 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek Telewizji Dziewcząt i Chłopców w programie m.in. „Pipi Langstrumf" — film fab. TV szwedz. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Poligon. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Aniołki Charliego — film krym. TV USA. 21.10 Pegaz. 21.55 Dziennik. 22.10 W minutę po premierze.

**Piątek 9 XI** — Program dnia. 15.30 Nurt — Psych. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Magazyn motoryzacyjny. 17.25 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.55 Najmłodszy z rodu Hamrów — odc. 9 pt. Rozstanie — film fab. TV czech. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Dunkierka — ang. film fab. 22.10 Dziennik. 22.25 Świat, ludzie, idee.

**Sobota 10 XI** — 13.15 Program dnia. 13.20 Radzimy rolnikom. 13.30 Wojskowy Film Dokumentalny — Czerwony, rewolucyjny, warszawski. 14.00 Obiektyw. 14.20 Dziennik. 14.30 Telewizja Młodych Kosmonautów — Orbita. 15.00 Studio 8.

# ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

# КІНО

**Białowieża** Partyzanci Kowpaka — radz. 6—7. Chewzburska ballada — radz. 8—9. Wspaniałe słowo wolność — radz. 10—11.

**Bielsk Podl.** Knajpa na Piatnickiej — radz. 5—6. Piąta pora roku — radz. 7—8. Sprzężenie zwrotne — radz. 9—10. Kurierzy dyplomatyczni — radz. 11.

**Czeremcha** Ulica nadmorska —radz. 6—7. Tata, mama, córka i zięć — radz. 10—11.

**Czyże** Arcymistrz — radz. Niech żyją duchy — czes. 7—11.

**Gródek** Labirynt miłości — radz. 10—11.

**Hajnówka** Małżeństwo Orłowów — radz. 5—6. Setka dla kurażu — radz. 7—8. Piwnica pod Baranami — pol. 9—10. O 6-tej wieczorem po wojnie — radz. 11—12.

**Michałowo** Te niebezpieczne drzwi na balkon — radz. 6—7. Yuriko moja miłość — radz. 8—9. Melodie białych nocy — radz. 10—11.

**Mielnik** Ballada huzarska — radz. Taki duży chłopiec — radz. 10—11.

**Milejczyce** Skradziona kolekcja — pol. Szach królowej brylantów — radz. 7—11.

**Nurzec** Charle Brown i jego kompania — USA 6—7. Gwiazda zwodniczego szczęścia — radz. 8—9. Odnaleziona — rum. 10—11.

**Orla** Cudze listy — radz. Lipcowe spotkania — czes. 7—11.

**Narew** Dziwna kobieta — radz. Jak zranione ptaki — radz. 7—11.

**Narewka** Nagonka — jug. Gdybym miał dziewczynę — czes. 7—11.

**Rajsk** Stan wyjątkowy — buł. Kiedy dojrzewa jagoda — jug. 7—11.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

* ✼ *

Ты як зямля
З табой і шчасце і клопаты
любіш уласнасць
без яе не квітнееш
і таму ва ўладанне
бяру тваё цела
і не баюся мянушкі „уласнік“
цяжарнасць і плод усё апраўдаюць

**Алесь Барскі**



## ДЗЕНЬ У МАРАФОНЕ

*Іду на поле бітвы слаўнай,*
*Дзе меч Еўропы маладой*
*Спаткаўся з Азіяй дзяржаўнай*
*І пераможны выдаў бой.*

*Там косці згінуўшых гаплітаў*
*Пакрыў гарой пяску курган,*
*Спяшу наверх па шэрых плітах*
*Адзін, апошні з Магікан.*

*Адзін стаю на верхавіне*
*І пад дажджом нябесных хваль*
*Гляджу на ціхую даліну*
*З травою бурай, як міндаль.*

*Навокал пуста і маркотна,*
*Усюды спёка і спакой.*
*Там пад Агрэлікай самотнай*
*Калісь быў самы цяжкі бой.*

*Не маю сіл ёй, як дзяўчыне,*
*Пайсці і мой зладжыць паклон,*
*Высока на яе чупрыне*
*Зірнуць, дзе быў Гараклiён.*

*І ў слаўнай вёсцы пуста, ціха:*
*З малых кафэ чуць ліпы пах.*
*З царквы выходзіць стары жыхар*
*Са свечкай тоўстай у руках.*

*За вёскай ззяе ў смузе сіняй,*
*Як водбліск люстра, як крышталь,*
*Жывое возера з плацінай,*
*З вадою мяккай, як вуаль.*

*Там кліча бераг мнагалюдны,*
*Вітае светлы рэстаран.*
*Ларкі, кіёскі, лодкі, судны*
*Турыстаў цягнуць, як архан.*

*І я іду, каб німфы-хвалі*
*Змылі мне з твару ліпкі пот*
*І каб на радужнай вуалі*
*Мяне гайдаў іх карагод.*

**Д. Шатыловіч**

* ✼ *

мо нам трэба
сустрэцца
каб запоўніць
яшчэ неадкрытае
ў гэткай ціхай жаночай
утульнасці
для цябе беспарогая дзвер
уваходзіш апрануты
ветрам
пералічваю тыканне ночы

**Марыя Базылюк**



## ДЗЯЎЧЫНА

*дзяўчына — філіграннае стварэнне*
*ландыш — званочак*
*смех — сняжынка*
*дзяўчына — мара вокамгненне*
*раса — сляза*
*царква — цярпенне*

**М. Андросюк**

### ТЫ

на гарызонце
плыве
твая бель
мой неспакой

у белы дзень
я думаю
што ёсць у жыцці
толькі адна
пабеленая рака

твой белы смех
маім агнём
а постаць твая белая
сшыта з кожным маім
днём

у жоўтых лiсцях
дрыжыць
пабелены блакіт

часам
у маўчанні
жыве
белая вясна

**Н. Артымовіч**

* ✼ *

*Журботна мне, калі цябе няма.*
*Хацела б быць з табой,*
*Размаўляць... чытаць вершы,*
*Вочы твае цалаваць,*
*Смяяцца і жартаваць.*

*Чаму ўвесь час ты сябе забіраеш?*
*Адыходзіш... і пустату балючую пакідаеш?*
*Дзе ты тады?*
*Што робіш, аб чым думаеш?*
*Ці я ў думках тваіх?*

*Прыйдзі і раскажы!*

*Прыйдзі! Будзем размаўляць.*
*Мо... трохі спрачацца?*
*Мо... чытаць вершы?*

*Але напэўна вочы свае будзем цалаваць,*
*Будзем смяяцца, бестурботна жартаваць.*

*Бо ж толькі ты мне, а я табе*
*Ружовыя акуляры здолеем надзяваць.*

**Варвара Кваніш**

* ✼ *

... і зноў застаў душу
досвiтак на бездарожжы

праменні
нагадваюць сонца

я нагадваю
чаму навучылася

а тое
бездарожжа
зусім не такое зноў

нагадвае
усё што знаю
— — — — —
дарога адна
у абдымкі
Маці Зямлі

**Ваву**



## МАМО ДОРОГАЯ...

Мамо дорогая,
Коб муг я бачыты свiет
Твоймы очыма.
Казала „крутыт рукі“
(...од роботы).
З того погоду ворожыла.
Як туолько пэрэстав
Падаты дождж,
Йшла в огород полоты,
Смiялiсь тогды до тэбэ
Дыні і слонэчныкі
Бэззубым ротом.
Давало нэбо тобі радосць
У кажду пору:
— Вэсна родiла надiйю,
опалювала Твуой твар і рукі.
— Літо
молітвою поту,
што залівав очы.
Туолько як копалі картохлі
Становылась ты смутна,
Йшла глыбокою борозною,
Чула, жэ вжэ осэнь
прыбліжаецця в прыроді
(і у жыцці).

**Іван Кірызюк**



* ✼ *

*Усмешкай шчыраю*
*ты прыманіла мяне,*
*ясным позіркам*
*неспазнаных вачэй,*
*прыгажосцю*
*вясновага ранка.*
*А мо толькі тым,*
*што позірк твой*
*абяцаў каханне...*
*Чаму ж цяпер*
*ты ўхіляешся, уцякаеш?*
*Спалохалася,*
*Што ўдваіх не дамо рады*
*з гэтым каханнем?*

**Алесь Батура**







Дочанька мая, мілая Алёнушка, што здарылася? Сохнеш у вачах. Што ён зрабіў з табой? Валацуга гэты. Лазіў, лазіў, як сабака за мясам, і пакінуў. Падла! Каб яго спру...

— Мамка, перастань. Ён мяне кахаў, кахаў, мамка. І я яго кахала, яшчэ як кахала.

— Ты яго кахала, я ведаю. Ён цябе — не! Калі б кахаў, дочанька, ажаніўся б з табой. Прысягаў жа табе на ўсё. Кляўся, што будзеш яго да смерці.

— Мамачка, перастань. Адкуль ты гэта ведаеш?

— Маці, дачушка, усё павінна ведаць. На тое яна і маці. Аб дзецях сваіх павінна клапаціцца. Ты як штовечар сядзела з ім пад ліпкамі, а я кралася і падслухвала. Слухала і дрыжала над лёсам тваім. Я хацела замуж выдаць цябе як найлепш. А выйшла што? Тупік. Валачыўся, валачыўся ды й пакінуў. Яшчэ добра, што адну. А не дай Божа з жыватом! Тады канец, дачушка, табе. Камень на шыю і ў рэчку. І так на вёсцы ўжо не лічаць цябе дзяўчынай. А сама ж нарабіла. Навошта было пускаць нанач дахаты. Ажаніўся б, тады што хочаш рабі. А цяпер, бачыш сама. Выехаў нібы зарабіць і што? Ані ду-ду. Чаму ж маўчыш, дачушка?

А яна, утуліўшы галаву ў падушку, горка плакала. Канец са мной. Матка ўсяго не ведае. Я ж цяжарная. Сорам для ўсёй сям'і. Засталося зрабіць так, як маці гаварыла. Галавой у рэчку. Людзі пагавораць і забудуць. Некаторыя пашкадуюць, другія асудзяць. Маці будзе найгорш. Пакуль абжывецца, будзе плакаць, наракаць. А што ж тут зробіш?

І Алёнка рашыла. Сёння. Яна ўстала. Абцерлася. Выйшла на кухню і кажа: — Мамка, едзеш у Гайнаўку?

— Еду, дочанька, еду.

— Вельмі добра. Купі мне тады на сукенку. Ну, матэрыял, як на шлюб.

— А навошта ён табе, Алёначка? Ты ж замуж не выходзіш?

— Мамка, думаеш не выйду? Выйду! Выйду і мо ўжо хутка.

— А за каго ж? — спытала маці.

— А што, мала хлопцаў? Я ж яшчэ маладая. Праўда, мам?

— Ну, добра, добра, дачушка. Няхай так будзе. Я ўжо бягу на поезд. А ты прыбяры ў хаце. Апраніся прыгажэй. І на рэчку збегай. Сягоння ж свята. Ведаеш, заўтра ў Старым Корніне фэст.

— Усё, мамачка, зраблю, усё.

А сама думае: можа я цябе, мамачка, больш не ўбачу.

Як толькі маці выйшла, Алёнка апранулася прыгажэй і выйшла на рэчку. Дзень быў сонечны. Кругом духата, як перад дажджом. Дажджу людзі просяць. Кругом усё згарае ад сонца. Толькі мне ён ужо непатрэбны. Яна прысела ў цяньку і пачала прыгадваць Васілька. Навошта я з ім звязалася? Ён жа сын багатага дзядзькі. І не раз гаварыў: бацька мой — чалавек старой даты. І нявестку сам сабе выбярэ. Чаму так сталася? Некалькі разоў патанцаваў і сказаў, што кахае. А я яму паверыла. Пажэнімся, казаў, хоць бацька не дазваляе. Гаварыў: я яму патрэбная, а не бацькам. Не адзін раз тут гулялі над рэчкай. Ён мяне тут цалаваў і спяваў: „Мілая Алёнка, я вады баюсь, пацалуй спачатку, бо я ўтаплюсь“. А я верыла яму. Цалавала. Думала, на век будзе мой. А што выйшла? Паеду, казаў, зараблю грошай, вярнуся, пажэнімся. Паехаў, забыў і мне ўтапіцца — не яму. Словы песні — гэта дзявочая дурната. Васілёк, Васілёк, згубіў ты мяне!

А кругом так прыгожа. Усё цешыцца прыродай. І жабы ля ног Алёнкі плёскаюць у ваду. І штось шэпча: не бойся! Паспрабуй! Гэта не страшна. Ён жа да цябе не вернецца! Бачыш, атрымаў вестку, што цяжарная, і замоўк. Ты ж не адна на свеце. Каму ж ты патрэбная?..

Але раптам за рэчкай раскаціўся гром, і на Ягадніхі неба зацягнулася дажджавымі хмарамі. Алёнка страпянулася, як са сну. Холадна зрабілася. Пад грудзьмі Алёнкі заварушылася. Гэта маленства, хоча жыць. А мо жыць мне для яго? Усё перанясу, клопаты і сорам. Усе насмешкі. Я ж маладая. Выеду і выгадую сваё дзіця.

Раптам пачуўся вокліч: — Алёнка, Алёнка, дзе ж гэта ты?

Сястрычка гэта, Люська. Навошта яна мяне кліча?

— Тут я, тут. Каля каліны!

Люська падбегла. Залапатала:

— Алёнка, танцуй. Гавару, танцуй!

— Толькі і засталося танцаваць.

— Не бядуй Алёнушка, твой Васілёк адгукнуўся.

Алёнка паспешна разарвала пісьмо, прачытала некалькі слоў і закрыла вочы. А вочы былі мокрыя, слёзы цяклі. Яна іх не абцірала. На твары паявілася ледзь прыкметная ўсмешка.

— Мой Васька! Васілёк мілы, — шапталі губы. — Кахае! Кахае мяне! — вырвалася з грудзей.

Алёнка схапіла Люсю і моцна-моцна прыціснула да сябе.

— Пусці, дурачка, — сказала Люся. — А то прыдушыш.

— Ведаеш, сястрычка, — праз слёзы сказала Алёнка, — нядобрыя людзі хацелі нас раздзяліць. А Васілёк спачатку паверыў. Вось, дурненькі. А потым выявілася, што я не вінавата. Хутка вернецца. Мой назаўсёды будзе. Толькі мой! Бяжым, Люська, дахаты. Прыбярэм хату як след, пакуль мамы няма. Заўтра ж нядзеля. І на фэст пойдзем, Люська.

Алёнка бегла дахаты як ашалелая.

**Г. Мароз**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У часе рэгулявання ўласнасці сельскіх гаспадарак начальнік гміны прызнаў Н. уласнасць дзялянкі, якая знаходзілася ў карыстанні О. Гэты астатні не ведаў аб пастанове начальніка гміны і таму пастанову не аскардзіў, і яна ўправамоцнілася. Н., абапіраючыся на гэту пастанову, звярнуўся да суда з патрабаваннем, каб О. аддаў яму гэтую дзялянку, і справу выйграў, а судовы выканаўца выканаў рашэнне суда. У выніку скаргі да ваяводы пастанова начальства гміны была адменена, і ўласнасць дзялянкі была прызнана О. Тым часам Н. не хоча аддаць О. дзялянку, гаворачы, што рашэнне суда, на падставе якога яму прызнана дзялянка, важнейшае ад пастановы адміністрацыйнай улады. Ці можна патрабаваць аднаўлення справы ў судзе, а калі не, то хто фактычна з'яўляецца ўласнікам дзялянкі?

АДКАЗ: Рэгуляванне ўласнасці сельскіх гаспадарак на аснове закона ад 26.X.1971 г. належыць да кампетэнцыі адміністрацыйных уладаў. Правамоцныя пастановы адміністрацыйнай улады не могуць быць зменены судовым парадкам. Таму ўласнікам дзялянкі з'яўляецца О. Аднак О. не можа патрабаваць аднаўлення справы ў судзе. Гэта магчыма, калі рашэнне абапіраецца на матэрыялах, якія пасля аказаліся ў святле новых доказаў недастатковымі або неверагоднымі. У нашай справе рашэнне суда было правільнае, бо абапіралася на правамоцную пастанову начальніка гміны. Паколькі пастанова гэта адменена, узнікла новая праўная сітуацыя, на аснове якой О. можа ўнесці ў суд новую справу з патрабаваннем вярнуць яму дзялянку.




## Куток практычных ведаў

## Строга і элегантна

Яшчэ так нядаўна апраналіся мы вельмі дзіўна. Чым вопратка наша і ўсе дадаткі выглядалі больш нядбала, тым былі мы больш модныя. З адной паношанай сумкай нейкага нейтральнага колеру можна было прахадзіць лета і зіму.

Мода вельмі рэдка змяняецца паволі. Найчасцей змены бываюць радыкальныя. Вось і сёння маем прыклад на гэта. Прэч з модай „жабрачай", хопіць пацёртых джынсаў, абутку, імітуючага плесень! — наказвае дух часу.

Сённяшняя мода выразная, намалявана чыста, але адначасова яе строгая і элегантная лінія патрабуе мноства дадаткаў, без якіх яна не можа існаваць. Проста магла б яна здацца нам часамі занадта шэрай і нецікавай. Таму вельмі прыдатны будуць сёння побач скромнай вопраткі яркія рукавічкі, берэцік, туфелькі, розныя дробязі. Памятайце аднак, што колеры дадаткаў мусяць быць вельмі дакладна падабраны і гарманізаваць з вопраткай. Толькі тады дадаткі будуць залогам моднага жаночага сілуэта.

**Сяброўка**



## Вер-не-вер

Дарагі Астроне! Сніцца мне, што я на вёсцы ў хаце сваёй сваячніцы. Але, што дзіўнае, у яе ўсе сцены ў пакоі абвешаны гадзіннікамі. Яны розных памераў — і малыя, і вялікія, але так іх многа, адзін пры другім вісяць. Я стаю і аглядаю гэтыя гадзіннікі. І яшчэ ў пакоі старынная мэбля. Памятаю нейкае невялічкае піяніна з вельмі даўніх часоў. І яшчэ ведаю, што ў яе дачкі (яна замужняя і ў яе дарослыя дзеці) мае быць вяселле. І я запрошаная. Вяселле мела быць вельмі гучнае, ідзем мы ўверх, як бы на гару, і я бачу, што ўсё выглядае вельмі скромна, крыху людзей і надта скромна на сталах. Па той прычыне гаспадары як бы і незадаволены, што я прыйшла. І гэта канец сну. Што ён можа абазначаць?

Надзя

**Надзя!** Абазначае ён добрае здароўе і поспех у справах. Гадзіннікі, калі яны спраўныя, абазначаюць усё добрае. Іншая справа, калі б былі яны паламаныя — абазначала б гэта разбітае жыццё, няўдачу, смутак. Тое, што на сталах не быў „пір на ўвесь мір", абазначае таксама добрае, бо інакш можна было б спадзявацца беднасці і паніжэння.

**Астрон**




Дарагое Сэрцайка, выйшла я замуж, калі не было мне і дзевятнаццаці год. Добра мужа не пазнала, хадзілі мы нядоўга. Спадабалася, што вясёлы, прыгожа танцаваў, ды спяваў. Але ў жыцці з ім расчаравалася вельмі. Жывем мы ўжо восем год. Ад пачатку не цікавіўся сям'ёй, — ні дзецьмі, ні мною. У яго заўсёды поўна сяброў, кампанія — справа найважнейшая. А там і дзяўчаты бывалі. Прыдзе з працы — і пайшоў. Калі скажу што, абураецца, пачынаецца сварка, плач дзяцей. Таму я найчасцей маўчу, абы спакой у хаце, ды ўсё спадзяюся, што мо муж „вырасце" ўрэшце з гэтага, мо ўрэшце зацікавіць яго і дом. Грошы прапівае, дае мне, што з носа спадзе. Я бачу, як жывуць суседкі, знаёмыя. Адна суседка, дык нават і не працуе, а муж ва ўсім ёй памагае. І дзеці да прадшколля і з прадшколля прывядзе, і ў дамашніх працах паможа. З зайздрасцю гляджу на іх і думаю, якія яны шчаслівыя. Жаль агорне, выплачуся, ды далей гарую. Мама ўжо мне не раз казала, што нічога з гэтага не будзе і каб я ўзяла развод. Тады яшчэ ў мяне было адно дзіця. Але я кахала мужа і слухаць аб гэтым не хацела. А цяпер маю трое дзяцей і задумоўваюся няраз, ці не пакінуць яго. А што ты, Сэрцайка, мне параіш? Як па-твойму, ці ёсць яшчэ надзея, што муж зменіцца?.

Аня з Сакольшчыны

Аня! Нічога не гаворыць за тое, што муж зменіцца, калі ўжо вы столькі пражылі. Гэта ўжо такога характару чалавек — неадказны, лёгкадумны, жыве толькі для сваіх выгад. Ты і сварыцца перастала, бо бачыш, нічога гэта не дало. Церпіш усё сама, маўчыш, абы спакой у хаце. А яму толькі таго і трэба. Ён ужо прывык за столькі год і не думаю, каб прыйшло яму на думку раптам змяніцца.

**Сэрцайка**

## Тайны другой сусветнай вайны




Толькі пасля гэтага пачалі завяршальны этап аперацыі „Бернхарт". Праўда, на фабрыцы трэба было падтрымліваць пастаянны ўзровень вільготнасці і тэмпературы, патрабавалася вялікая колькасць ільняных ануч. Апасаліся, што кошт фальшывых фунтаў мог перавысіць кошт сапраўдных банкнот, набытых за золата ў адной з нейтральных краін. Выхад быў знойдзены просты — калі ўжо фальшывыя грошы абыходзяцца так дорага, то трэба нарабіць іх столькі, каб пакрыць затраты з лішкам.

Аперацыя пайшла намнога хутчэй пасля таго, як „інжынер" Фрыдрых Швенд знайшоў у акупіраваных нацыстамі раёнах трох „высокакваліфікаваных" фальшыв튫манетчыкаў. Хутка ўся тройка апынулася ў канцлагеры Араніенбург, дакладней, у „зондэрблоку" — спецыяльным бараку нумар 19.

На самай справе тут знаходзілася паліграфічная лабараторыя, аснашчаная самым сучасным па тым часе абсталяваннем. Падначаленыя Швенда пасля шматлікіх проб вырабілі пліты для друкавання грошай. Нумары серый былі часткова новыя або паўтаралі існуючыя ў сапраўднасці нумары банкнот. Грашовыя знакі з „сапраўднымі" нумарамі прызначаліся для самых тэрміновых плацяжоў, іншыя — для вывучэння шляхоў распаўсюджання фальшывых грошай і іх выхаду на рынак.

Першыя банкноты, аддрукаваныя ў Араніенбургу, служачыя банкаў прымалі без ценю падазрэння. Справа даходзіла да парадоксаў — часам пад падазрэнне траплялі пачкі з сапраўднымі фунтамі, здадзеныя ў банк разам з фальшывымі банкнотамі.

Аднак на доследы было затрачана вельмі шмат часу. К моманту з'яўлення англійскіх фунтаў, зробленых у Германіі, вайна набыла ўжо неспрыяльны для нацыстаў паварот.

### БАНКІРЫ Ў САЮЗЕ З НАЦЫСТАМІ

Але аперацыя „Бернхарт" працягвалася. Такімі ж падобнымі на сапраўдныя атрымаліся і амерыканскія долары. Пачынаючы з вясны 1943 года, сакрэтныя службы гітлераўскай Германіі не адчувалі ніякіх цяжкасцей з фінансамі. Аб гэтым гаворыць той факт, што „паслугі" іх агентаў у розных краінах аплачваліся выключна ў фунтах і доларах.

Незвычайная шчодрасць гаспадароў выклікала трывогу ў некаторых агентаў, якія дзейнічалі ў Вялікабрытаніі і Злучаных Штатах. Каб пазбегнуць далейшых падазрэнняў і выпадковага правалу ўсёй аперацыі, немцы вярнуліся да ранейшых тарыфаў.

Аперацыя „Бернхарт" прыносіла вельмі адчувальныя вынікі. Ужо мільёны фальшывых фунтаў стэрлінгаў і долараў цыркулявалі на сусветным рынку.

Аднак вайна набліжалася да канца, і па загаду начальніка РСХА — галоўнага імперскага ўпраўлення бяспекі — Кальтэнбрунера ўсе матэрыялы, звязаныя з аперацыяй „Бернхарт", трэба было перавезці ў канцлагер Эбензэе ў Аўстрыі, дакладней, у яго філіял Рэдль-Ціпф. Але, як мы пісалі вышэй, без перашкод праехаўшы палавіну Германіі (Араніенбург знаходзіўся за дваццаць кіламетраў ад Берліна), праскочыўшы на тэрыторыю Аўстрыі, калона грузавікоў вымушана была накіравацца да возера Топліц.

Застаецца паведаміць пра яшчэ адну малавядомую акалічнасць: аперацыя „Бернхарт" прынесла вялікія даходы двум нямецкім банкірам — Шпіцу і Ленцу (апошні з'яўляецца ўладальнікам аднаго са старэйшых банкаў Германіі). Менавіта гэтыя два паважаныя паны „прыстроілі" большую частку банкнот, аддрукаваных у ходзе аперацыі.

Ну, а якая ж прычына загадкавых смерцяў каля возера Топліц і ў яго водах? Хто больш за ўсё быў зацікаўлены ў тым, каб трымаць цікаўных далей ад глыбокага возера? Некаторыя сцвярджаюць, што галоўныя „героі" ўсёй гэтай гісторыі, людзі Кальтэнбрунера і Швенда, пайшлі на ўсё, каб ліквідаваць небяспечных канкурэнтаў ці празмерна цікаўных.

**Дантэ Вірджылі**

Імпартгумар

# АГУЛЬНАЯ ТЭМА РАЗМОВЫ

Калгасны брыгадзір прыехаў на абласную нараду і пазнаёміўся з прыгожанькай дзяўчынай. Яна — з аднаго навукова-даследчага інстытута. У часе перапынку між пасяджэннямі абое шпацыруюць па калідоры і, як гаворыцца, знаходзяць агульную тэму размовы.

— Вось вы які загарэлы! I я люблю загар... Прыроду люблю, — прызнаецца яна. — Поле, рэчку, лес...

— Прыязджайце да нас! — запрашае ён. — Усё гэта ў нас пабачыце.

— Ведаеце, я з сяброўкай, з нашай лабараторыі, ездзіла на дачу прафесара. Ой, як там хораша! Мы пайшлі ў сяло і нас дождж захапіў. Мне аж цяпер хочацца, каб зашапацеў па стрэхах дождж.

— Не, цяпер не-е! Няхай пастаіць пагода. Прагнозы сіноптыкаў добрыя. Зараз дарагая кожная мінута. Ідуць нашы экзамены.

— Як вы сказалі!

— Я кажу, зараз гарачая пара. Жыта жнуць. Для камбайна такая пагода, што золата.

— Жнуць — няхай жнуць! Падумаеш, камбайн — машына, гэта ж тэхніка!.. А мне хочацца хмар з дажджом...

— Ну, чаму вам так хочацца дажджу? — недаўменна, аж з крыўдай, здзіўляецца брыгадзір.

— „А мне всегда чего-то не хватает...“ Ха-ха, не, сур'ёзна! Ведаеце, як пойдзе дождж, будуць расці грыбы. А я так люблю ездзіць за горад, у лес, па грыбы...

**Іван Грамовіч**

З савецкага гумару.

ПРИЕМНАЯ

ДЕЛО

# ГУМАР З БАРАДОЙ

### АБДУРЫЎ

Едзе цягнік Львоў-Кіеў. На невялічкай станцыі спыняецца. Праваднік аб'яўляе:

— Стаянка адна мінута!

— Як звычайна, з вагонаў высыпалі пасажыры: хто выпіць вады, хто купіць свежую газету...

Мінула з паўмінуты, як з вагона выскаквае яшчэ адзін пасажыр і на хаду выкрыквае: „Хто з Каросценя? Хто з Каросценя?..“ Людзі на пероне пераглядаюцца. Нарэшце адзін знайшоўся: „Я з Каросценя, я!“

Той, што з цягніка, падбягае, нічога не кажучы, бац каросценца ў вуха.

Людзі анямелі. Тым часам цягнік даў гудок. Той, што з цягніка, дагнаў свой вагон, ускочыў на ўсходкі і паехаў. Людзі абступілі пацярпеўшага.

Калі ўжо сабралася шмат людзей, каросценец шматзначна ўзнімае ўгору правіцу, ўсміхаецца і радасна паведамляе: „Вы ведаеце, а я яго здорава абдурыў: — Я не з Каросценя, я з Жытоміра!“

# НІЎКА

З савецкага гумару.

К БАСМАНОЕ ПРЕКРАСНОЙ ЗА ТРИДЕВЯТЬ ЗЕМЕЛЬ
БАБА-ЯГА 200м

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пайшла бабуля ў парк культуры з унукам. Падыйшла да касы атракцыёнаў, а касір трапіўся не надта ветлівы, нагрубіяніў ні за што бабулі. Узяла бабуля білеты, і тупаюць яны да „Чортавага кола“.

Унук уважліва разглядае яго і пытае:

— Ну, добра. Гэта кола, а дзе ж чорт?

— А во ў будцы білеты прадае, — адказала бабуля.

*

— Што сказаў табе трэнер пасля матча?

— Наогул пахваліў, аднак і палаяў.

— За што менавіта?

— За тое, што я спяшаўся: уляцеў у вароты сапернікаў раней за шайбу.

ТАБАК СИГАРЕТЫ

З савецкага гумару.

### ШТО З КАСТУСЁМ

— Як вы сябе адчуваеце, Кастусь?

— Вельмі дрэнна. Я такі хворы, што калі днямі нехта мне сказаў, што я памёр, я гэтаму нікольки не здзівіўся.

З савецкага гумару.

ДОЖДАЛСЯ ПОСТАВЬ НА МЕСТО

*Сервіс для закаханых.*

### У КАГО ЛЕПШЫ БАЦЬКА

Хлапчукі хваляцца:

А мой бацька на галаву вышэйшы за твайго бацьку!

— А ў майго затое жывот большы!

**Аб сябрах гаварыў з агеньчыкам, але без цеплыні.**

### РАЗВУЧВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

Andante cantabile

Словы Н. Тарас, музыка І. Сушко

# ШТО ТЫ МНЕ СЭРЦА ПАРАНІЎ

Сонца за хмаркамі ўранні
Скрылася — болей не свеціць.
Што ж ты мне сэрца параніў,
2 разы
Мой найдарожшы на свеце?

Як жа мне, як жа развеяць
Хмарачак тых караваны?
Дзе ж мне нарваць таго зелля,
2 разы
Каб загаілася рана?

Хмаркі развеюцца самі —
Ёсць вецярочак на тое.
Раны не сцішыш слязамі —
2 разы
Ласка твая іх загоіць.

Сонца за хмаркамі ўранні
Скрылася — болей не свеціць.
Што ж ты мне сэрца параніў,
2 разы
Мой найдарожшы на свеце?

### РАЗУМНЫ САБАЧКА

— Які ж у мяне разумны сабачка, — хваліцца адзін прыяцель другому. — Мігам цяміць, што я ад яго хачу. У апошні час я спрабаваў навучыць яго брахаць, калі яму хочацца есці. Раз сто запар яму паказаў, што трэба рабіць.

— I ён навучыўся?

— Так. Ён цяпер ні за што не пачынае есці, пакуль я не забрашу.

З „Весніка Задрыпоніі“

### ЗАЯВА

Прашу развесці мяне з грамадзянінам С. Пузановічам. Жыць побач з такім горкім п'яніцам немагчыма. З самай раніцы ён выпівае ўсю гарэлку, якую я пакідаю сабе на апахмельку.

### З ПАРАД БАСЯЦКАГА

Не піце да „дна“: цяжка з яго выбрацца.

З савецкага гумару.

$m\sqrt{x^2dy^3}+hn-[a^2\cdot B^2]=Amx^3$ / $2my$; $a^3+B^3-mBx\cdot L+\sqrt{mx}+By=mah^3$; $\frac{2xh^3y}{2aB}=m^3\pm\infty\,h^3ay^3$

*Без слоў*

# КУРЁЗЫ

### ЗАСЛОНА

У сярэдзіне дваццатых гадоў Маскоўскі тэатр сатыры, які толькі што адкрыўся, меў вялікі поспех сваімі пастаноўкамі агляду і злабадзённых камедый. Рэжысёр і аўтар агляду Гутман сустрэўся нейк з Мейерхольдам, і той прапанаваў Гутману:

— А ці не хочаце вы паставіць спектакль у маім тэатры?

— З захапленнем! — адказаў Гутман. — Толькі пры ўмове, што вы вернеце на месца заслону.

— А навошта вам заслона? — здзівіўся Меерхольд.

— Ну як жа! Аб апошняй маёй пастаноўцы ў газетах пісалі, што на прэм'еры пасля заканчэння спектакля 16 разоў давалі заслону. А што будзе ў вас?..

### БІЗНЕСМЕНЫ — ХТО ЯНЫ?

Паводле французскага юмарыста Сашы Гітры, бізнесмены — гэта людзі, якія ўсё сваё жыццё займаюцца тым, чаго рабіць не трэба было б, каб купіць рэчы, якія ім таксама не патрэбны, каб зрабіць уражанне на людзей, якіх яны не любяць.

### ЦІ БУДУЦЬ СВІННІ?

Аднойчы адзін пыхлівы саноўнік прыйшоў у пецярбургскі цырк разам са сваёй поўнай жонкай. Ён зняважліва спытаў вядомага рускага цыркавага артыста Анатоля Дурава, што стаяў каля касы:

— Ска-а-жы-це, а свінні будуць?

— Як купіце білеты, то будуць.

МІЖЭ НАМІ

**Памятайце: ад вялікага да смешнага — адзін крок. Не хадзіце пешкі!**